# «КАЛАСОК» ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ



У калгасе імя Леніна Краснапольскага раёна для маленькіх вясковых жыхароў створаны добрыя ўмовы для фізічнага і духоўнага развіцця. Яны праводзяць час, харчуюцца і выхоўваюцца ва ўтульным дзіцячым садзе з мілагучнай назвай, ад якой вее пяшчотай і пахам жытнёвых палеткаў — «Каласок».

Хто з сённяшніх дзядуль і бабуль пры гэтым слова не ўспомніць сваё басаногае ваеннае ліхалецце, пасляваенны час і той пучок каласкоў, з якога ў полі на кастры смажылі пражмо, каб хоць неяк наталіць голад.

Сённяшнія ж дзеці голаду не ведаюць, і дай Бог, каб ніколі не зведалі. Сёння дзятву ў «Каласку» кормяць смачна і сытна. А гатуе тут яду цудоўная кухарка **Валянціна Дзімітраўна МАРОЗАВА** (верхні здымак), якая працуе ў калгасным дзіцячым садзе ўжо 10 год — з дня адкрыцця гэтай дашкольнай дзіцячай установы. Валянціна Дзімітраўна чэсная, добрасумленная і старанная працаўніца, сама расціць дзвюх дачушак — Наташу і Валю, таму добра ведае норавы дзятвы і імкнецца згатаваць ежу для выхаванцаў дзіцячага сада так, каб кожнаму немаўлятку, патрапіць па густу.

Дзеці ў «Каласку» не толькі сытна і смачна заўсёды накормлены, але і добра прыгледжаны. Тут склаўся дружны калектыў выхавацеляў і нянек. Сярод іх асабліва хочацца адзначыць Любоў Васільеўну Жораву. Уже дзевяць год працуе яна ў садзіку нянечкай. Любоў Васільеўна шчырая жанчына, чуллівая і пяшчотная маці. Яна расціць і выхоўвае сваіх чацвера дзяцей, у сям'і заўсёды лад і спакой, таму і да чужых дзяцей няня адносіцца надзвычай добра, песціць усіх выхаванцаў, як сваіх родных дзяцей.

**На ніжнім здымку: Л. В. ЖОРАВА** з дзецьмі ў дзіцячым садзіку «Каласок»

**Фота І. ТКАЧОВА.**



# Хоцімскае шкло

Зараз усё стала дэфіцытам. І шкло ў тым ліку. Трэсні сёння шыбіна ў вакне — паспрабуй знайсці, чым зашкліць! Пайдзі ў магазін чагосьці бутэльку ўзяць — дудкі, нясі ўзамен парожнюю бутэльку! Смеху варта... ці мо слёз. Дагаспадарыліся, туды вашу...

А ўсё ж у нас было! І не заморскае, нават не расейскае і не хахляцкае, а сваё, уласнае, з Беларускага Усходу, з Хоцімшчыны! Нават у «дапатопныя» часы, яшчэ 200 год назад на Хоцімшчыне выраблялі аконнае шкло і разнастайныя шкляныя вырабы.

У даўнія часы ў памешчыка Галынскага было тут шмат уладанняў. Нават сёння можна пачуць ад старых назвы вёсак Васілёўка Галынская і Васілёўка Смаленская, якія афіцыйна зараз называюцца Васілёўка — 1 і Васілёўка-2.

Было памесце Галынскіх і ў вёсцы Батаева. Там памешчыкі яшчэ пры феадалізме, у XVII стагоддзі пабудавалі шкляны завод. Улік гаспадарчай дзейнасці ў іх вёўся дасканала. Не тое, што цяпер. І захоўваўся добра. Не так, як у наш «адукаваны» век пры сацыялізме: паспрабуйце знайсці дакумент аб тым, што выраблялася ў вёсцы Батаева ў 1950, скажам, годзе. Хрэн з рэдзькай — не знойдзеш. А вось па сённяшні дзень у Санкт-Пецярбургскім архіве акуратненька захоўваецца арыгінал-рукапіс «Звесткі ўпраўляючага прамысловымі прадпрыемствамі памешчыка Галынскага аб стане прадпрыемстваў за першую палову 1801 года. Вось аб чым там, у прыватнасці, гаворыцца: «Завод шкляны, на якім выробляецца шкло ліставое і сасуднае, стаіць у вёсцы Батаева. На ім адзінаццаць майстравых людзей мужчынскага полу. У паўгода выпрацоўваецца тавараў: шкла аконачнага 16 яшчыкаў, бутэлек шкла зольнага, звычайнай меры штук 200, штофаў з таго ж шкла 160. Бутэлек шкла сіняга мераю чвэрць штофа 70, кілішкаў шкла паўкрышталёвага штук 100, шклянак шкла зольнага 100, шклянак шкла паўкрышталёвага 70».

А сёння? Сёння Хоцімшчына стала жабрацкім краем. Няма тут аніякай прамысловасці. Сяляне настолькі прыціснуты ўладамі — хоць воўкам вый. Хлеб, мяса, малако ў іх забіраюць за бясцэнак, можна сказаць, а за тэхніку, угнаенні, іншыя матэрыяльныя каштоўнасці, неабходныя для вытворчасці прадукцыі — жыўём сем скур з калгаснікаў здзіраюць.

А калі знойдзецца рухавы кіраўнік, зоймецца добрай справай, камерцыяй, яму палкі ў колы: не разганяйся!

Дырэктар саўгаса «Трасціно» стараецца прыдбаць патрэбнае для гаспадаркі, шукае, знаходзіць — яго за гэта тузаюць. А хто ў сваю кішэню імкнецца пабольш напіхаць — таго не хочуць заўважаць. Старшыня калгаса «Прагрэс» разгарнуў шырокую дзейнасць па наладжванню падсобных промыслаў, развіццю аленяводства для здабычы пантаў, дык знайшліся нават падпявалы-барзапісцы ў прэсе, якія пачалі хуліць У.В.Канавалава за тое, што ён «не тым, чым трэба», займаецца. Маўляў, справа калгаса хлеб, бульбу, мяса ды малако даваць краіне. А цвікі, панты ды каўбасу хай «пралетарыят» робіць.

Ды, слава Богу, настаў іншы час. Прадпрымальніцтва віншуецца. І як бы кансерватыўныя сілы ні стараліся — прагрэс немінучы. А мо і сапраўды на Хоцімшчыне знойдуцца прадпрымальнікі і адродзяць былую славу майстроў Хоцімскага шкла? Час пакажа. А ўсё ж можна мець у Хоцімску і сваё шкло, і свой алей, і свой цукар і свае дублёнкі! Ды і ці мала, яшчэ чаго...

**В. АЛЯКСАНДРАЎ.**

**Леанід ЛЕВАНОВІЧ**

# Дзікая ружа

Вось і Акапян вярнуўся. Магчыма, цяпер ён будзе паводзіць сябе інача́й, а мо цішком пачне зачыняць беларускія школы. Але тое, як ускінуўся ён супраць песні пра атрад, у глыбіні душы ўзрадавала. Антон Пракапенка, можна сказаць, праспяваў яе з чужога голасу. Неўзабаве пасля самагубства Свідэрскага пазваніў Лугаўцоў і спытаў, як у раёне ўспрынялі гэтае здарэнне, і не чакаючы адказу, хмыкнуў у трубку: отряд не заметил... Цяпер падумалася, што і Лугаўцоў праспяваў яе, мабыць, з чужога голасу, бо не быў ён раней аматарам вершыкаў і песенак. Нашы беларускія песні і то рэдка спяваў. Хіба пасля добрай чаркі, калі хто запяваў, мог і ён падцягнуць гнусавым баском. Звычайна заводзіла Арына — яна ведала багата народных песень, умела і любіла спяваць.

Даклад слухалі няўважліва, а калі прамоўца загаварыў пра Берыю, зала адразу прыціхла, насцярожылася.

...Берия под фальшивым предлогом борьбы с нарушениями национальной политики партии пытался посеять рознь и вражду между народами СССР. Все это прикрывалось якобы защитой интересов отдельных республик, отдельных наций, и что он, Берия, является этим «защитником»... Что можно сказать, товарищи, после Пленума ЦК КПБ? Когда шел пленум, участники его еще не знали о разоблачении врага народа Берия. Большинство, я бы сказал, преобладающее большинство, участников Пленума ЦК КПБ проявили себя зрелыми, стойкими. Известно, что как в руководстве сельским хозяйством, так и в обеспечении развития белорусской литературы, культуры, национальной по форме, социалистической по содержанию, у нас немало недостатков. И лишь небольшая группа политически незрелых работников пыталась воспользоваться сложившимися обстоятельствами в корыстных целях...

— Ну, душа любезны, хто ж тут аказаўся незрэлым? — штурхануў Акапян у плячо Пракапенку.

— Выходзіць, знайшліся такія, — ухіліўся ад прамога адказу Пракапенка, ды і пачуліся галасы ззаду: «потише, товарищи». Тым часам дакладчык працягваў:

— Пленум ЦК КПБ на своем заключительном заседании ввиду важности и сложности вопроса поручил Бюро ЦК провести дополнительную работу по редактированию проекта постановления. Последующие события показали, что целый ряд положений, внесенных в проект постановления, а также высказанных в докладе на Пленуме ЦК КПБ, являются ошибочными, неправильно ориентирующими партийную организацию, и политически вредными. Поэтому Бюро ЦК взяло на себя ответственность перед Пленумом ЦК не выпускать решения до настоящего пленума с тем, чтобы с учетом всех обстоятельств доложить настоящему пленуму проект в измененном виде, очищенном от ошибочных положений...

І вось пачаліся спрэчкі. Пракапенка думаў, што сакратары абкомаў, як і на мінулым пленуме, будуць гаварыць на сваёй роднай мове. Але вось рашуча падняўся на трыбуну Кірыла Мазураў і пачаў чахвосціць Берыю:

— Его вредительская деятельность коснулась и нашей республики. У всех членов ЦК еще свежи в памяти впечатления, которые мы вынесли с прежнего Пленума ЦК, состоявшегося месяц назад. Мы обсуждали постановление Президиума ЦК КПСС, принятое как известно, по настоянию Берия. Этот провокатор своими коварными действиями пытался заставить ЦК КПБ признать, что в Белоруссии имеют место извращения ленинско-сталинской национальной политики, будто бы проявляющиеся в несоблюдении национальной формы в культурной работе и работе с кадрами... Мне вспоминается, как я в своем выступлении на прошлом пленуме, отметив, что основной руководящий состав — свыше семидесяти процентов в нашей Минской области — белорусский, все же сделал вынужденное признание, будто мы неудовлетворительно выполняем указания партии о выдвижении на руководящие посты местных работников белорусской национальности. Это было, конечно, неправильно...

Пракапенка слухаў і не верыў сваім вушам. Быццам падмянілі Мазурава, той раз ён так горача і пераканаўча выступаў, і гаварыў на беларускай мове, а цяпер ён пераканаы, што гэта — памылка.

Затым выступаў Пётр Абрасімаў, першы намеснік Старшыні Савета Міністраў рэспублікі, і таксама бэсціў ворага народа і партыі Берыю, які «ввел в заблуждение» Прэзідыум ЦК КПСС, у выніку чаго была прынята вядомая пастанова. Але мінулы Пленум ЦК КПБ ускрыў «несостоятельность обвинений против товарища Патоличева».

Атмасфера накалялася. Прамоўцы выступалі ўсё смялей і гарачэй. Ад крытыкі Лаўрэнція Берыі пераходзілі да крытыкі ягонага стаўленіка ў Беларусі Лаўрэнція Цанавы. Зала насцярожылася, калі старшынствуючы аб'явіў: слова мае міністр юстыцыі Вятроў.

Пракапенка ведаў Івана Дзмітрыевіча Вятрова, які не раз прыязджаў у раён, бо родам быў з прыбяседскай вёскі Саматэвічы, мо таму і слухаў яго выступленне з асаблівай увагай.

...— Некоторые руководители носились с Цанавой, заискивали, кое-кто искал дружбы. Вместо того, чтобы его одернуть, его умиротворяли... Он ведь прямо подменял ЦК. В период товарища Пономаренко — меньше, в период товарища Гусарова — ему это удавалось больше. Он старался быть всегда на первых ролях. Я напомню такой случай. Минский горком послал ему билет на торжественное заседание. Как-то получилось, что билет имел номер девять или десять. Цанава добился снятия этого инструктора. Требовал его наказания. Что же было: по указанию руководства горкома послали другого инструктора и дали ему билет номер три или четыре. Это же позор. Не хватало еще стать перед ним на колени...

Прамоўца перадыхнуў, агледзеў залу, адчуў падтрымку удзельнікаў пленума і гаварыў далей:

— Другой пример. Он жил на даче в Слепянке. Там недалеко прудное хозяйство. Под предлогом, что на него напали комары, Цанава добился ликвидации хозяйства, пруд был зарыт... Гродненская парторганизация попыталась призвать к порядку холуя и провокатора Цанавы — Фролова. Что же из этого получилось? В угоду Цанаве сняли с работы первого секретаря обкома, национального белорусского Героя, каким является Сергей Притыцкий, а холуй и провокатор Фролов стал первым заместителем Цанавы. Разве так должна была поступать партийная организация, как она поступила?

Вятроў і ранейшыя прамоўцы называлі прозвішчы членаў Бюро ЦК, якія «смотрели Цанаве в рот». І вось слова ўзяў Васіль Іванавіч Казлоў, славуты партызанскі камандзір, генерал-маёр, Герой Савецкага Саюза, Старшыня Прэзідыума Вярхоўнага Савета Беларусі. Выглядаў ён стомленым, неяк ссутуліўся, пінжак, на штрыфлі якога паблісквала Зорка Героя, мешкавата вісеў на плячах — нібы гаспадар яго схуднеў за адну ноч. Пракапенку падалося, што Казлоў знарок трымаў руку так, каб прыкрыць Зорку, быццам яму было сорамна за яе. І голас яго быў глухаваты, стомлены. Спачатку і ён расчахвосціў Берыю, які «пытался активизировать буржуазно-националистические элементы и этим ослабить социалистическое строительство в нашей республике».

**(Працяг будзе).**

